Выходзіць з 20 снежня 1945 года

# НАСТАЎНІЦКАЯ газета



ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

№ 31 - 32 (5362 - 5363)
Чацвер, 14 сакавіка 2002 года

## "Настаўніцкая газета" ў II квартале 2002 года плануе:

**правесці прамыя лініі з**

Першым намеснікам Міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь Аляксандрам Іванавічам Жуком;

старшынёй Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе Ігарам Васільевічам Катляровым;

**надрукаваць:**

◆спецыяльныя выпускі "Адукацыя: дакументы і каментарыі";
◆матэрыялы па новых адукацыйных тэхналогіях;
◆тэматычныя старонкі: "Педагагічная майстэрня", "Методыка", "Сацыяльны ракурс", "Рэгіянальная адукацыя", "Выхаванне", "Сям'я", "Дашкольнае выхаванне", "Стадыён", "Лячэбная педагогіка", "Твой гонар, Бацькаўшчына", "Паралелі", "Кнігарня", "Прафесійна-тэхнічная адукацыя", "Навука", "Дамашняя энцыклапедыя";
◆інтэрв'ю з кіраўнікамі, заслужанымі работнікамі адукацыі;
◆матэрыялы па асаблівасцях і ходу паступлення ў гэтым годзе ў ВНУ, ССНУ, ПТВ;
◆раздзелы з новай, нязвыклай і нават дзіўнай аповесці Юры Станкевіча "Пісьмо ў галактыку "Млечны шлях", галоўны герой якой – настаўнік;
◆а таксама навіны, рэпартажы аб найбольш важных і значных падзеях у сістэме адукацыі;

аб'явіць цікавыя конкурсы сярод чытачоў.

## *Стартаваў новы маладзёжны праект*

***Днямі ў Нацыянальным прэс-цэнтры адбылася прэзентацыя праекта "Стратэгія развіцця маладзёжных арганізацый у Беларусі", якую пачаў рэалізоўваць Беларускі саюз маладзёжных і дзіцячых грамадскіх аб'яднанняў "Рада" пры падтрымцы Праграмы TACIS Еўрапейскага Саюза.***

У межах праекта запланаваны цэлы шэраг мерапрыемстваў па аналізу маладзёжнай палітыкі і маладзёжнага руху ў краіне. Ужо распачата даследаванне, скіраванае на вывучэнне сітуацыі з прыцягненнем маладзёжных грамадскіх аб'яднанняў у працэс прыняцця рашэнняў у сферы маладзёжнай палітыкі.

Днямі пачнецца і яшчэ адно даследаванне - аб супрацоўніцтве дзяржаўных структур і маладзёжных аб'яднанняў. Дарэчы, у ходзе рэалізацыі праекта будзе фарміравацца банк звестак пра вопыт узаемадзеяння маладзёжных і дзіцячых арганізацый і дзяржаўных структур у нашай краіне (як пазітыўны, так і негатыўны).

Важным напрамкам праекта стане распрацоўка прапаноў у заканадаўства, што рэгулюе пытанні маладзёжных і дзіцячых грамадскіх аб'яднанняў. Плануецца праінфарміраваць прадстаўнікоў зацікаўленых арганізацый аб тых механізмах, з дапамогай якіх можна лабіраваць прыняцце гэтых прапаноў органамі дзяржаўнай улады.

Інфармацыя, атрыманая шляхам даследаванняў і аналізу, будзе выкарыстоўвацца на семінарах, каб удзельнікі атрымалі канкрэтныя веды і навыкі для больш эфектыўнай грамадскай дзейнасці ў сферы маладзёжнай палітыкі.

За 17 месяцаў дзеяння праекта плануецца правесці сем інфармацыйных дзён, падчас якіх маладзёжныя і дзіцячыя грамадскія аб'яднанні могуць атрымаць прававую падтрымку, а ініцыятыўныя групы - усю вычарпальную інфармацыю па пытаннях рэгістрацыі грамадскіх аб'яднанняў і іх дзейнасці.

У межах праекта будзе выдавацца інфармацыйна-аналітычны часопіс (першы яго нумар павінен выйсці ў траўні). Ён будзе унікальным выданнем, бо ўпершыню стане шырока асвятляць дзейнасць маладзёжных грамадскіх арганізацый. Але часопіс прызначаны не толькі для іх сяброў, але і для так званай неасацыяванай моладзі.

У кастрычніку ў Мінску павінен прайсці міжнародны фестываль, а ў красавіку наступнага года - міжнародная канферэнцыя, дзе ўдзельнікі абмяняюцца вопытам і думкамі наконт стварэння эфектыўнай мадэлі ўзаемадзеяння дзяржаўнага і грамадскага сектара.

Як адзначыла намеснік дырэктара Дэпартамента па справах моладзі Міністэрства адукацыі краіны Марына Яжова, праект узнік невыпадкова - настаў час ладзіць плённае супрацоўніцтва моладзі і ўлады як у самой сталіцы, так і ў раёнах.

**Галіна ГЕНАДЗЬЕВА.**



Беларускія вячоркі "Ручнікі" прайшлі нядаўна ў Крычаве. У клубе чыгуначнікаў сабраліся і пенсіянеры, і моладзь. Спявалі народныя беларускія песні і танцавалі. Прыз гледачоў атрымаў першакласнік сярэдняй школы №4 Паша Арлоў – самы юны ўдзельнік вячорак.

НА ЗДЫМКУ: лыжачнік Паша Арлоў.

**Фота Валерыя БЫСАВА, БЕЛТА.**

## Навіны

### Павышаць якасць харчавання

***У нашай краіне распрацоўваюцца рэгіянальныя праграмы па ўдасканаленні і арганізацыі харчавання вучняў на 2002-2005 гады.***

Праграмы гэтыя будуць грунтавацца на ўкараненні новых тэхналогій прыгатавання ежы і форм абслугоўвання.

Так, напрыклад, прадугледжваецца практыкаваць у школьных сталоўках такія навінкі як "шведскія сталы".

### Беларускіх класаў стане больш

***У Светлагорску была зацверджана праграма дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі.***

Мэта праграмы – вывучэнне культурнай і гістарычнай спадчыны нашай краіны, традыцый беларускай сям'і, народных звычаяў і традыцый.

З беларускай мовай дзеці будуць знаёміцца ўжо ў дашкольных установах. У школах жа праводзіцца дыягностыка сярод педагогаў і вучняў, у ходзе якой будзе выяўлена жаданне вывучаць беларускую мову і літаратуру больш сур'ёзна. А па канчатковых выніках будзе прынята рашэнне аб адкрыцці ў новым навучальным годзе класаў з паглыбленым вывучэннем роднай мовы.

**Казімір ЮРОЙЦЬ.**

### Level збірае сяброў

***Днямі ў Мінску на Партызанскім праспекце, 14, у будынку Галоўнага вылічальнага цэнтра (ГВЦ) Міністэрства статыстыкі Рэспублікі Беларусь адкрыўся камп'ютэрны клуб Level. У залах устаноўлены дваццаць камп'ютэраў на базе працэсараў Intel (Celeron-900).***

Значэнне клуба не столькі ў тым, што маладыя людзі змогуць цяпер правесці час не ў цёмным завулку, а ля "адкрытага акна ў свет", але і ў далучэнні да камп'ютэрнай граматы, а можа – і да будучай прафесіі.

На кожным камп'ютэры ўсталяваны 36 найноўшых і любімых карыстальнікамі камп'ютэрных гульняў. Аднак яны – не самамэта. У клубе, акрамя агульнапрынятага набору паслуг (гульні, друк на прынтэры, сканіраванне, запіс CD, у бліжэйшай перспектыве – Інтэрнэт), можна пазнаёміцца і пачытаць камп'ютэрныя тэматычныя газеты і часопісы.

Клуб Level зарыентаваны на школьнікаў і студэнтаў. Плануецца цесная работа са школамі ў галіне навучання інфарматыцы. Да таго ж, як лічаць арганізатары, адкрыццё клуба – важны крок па выкарыстанні вылічальных цэнтраў Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь у агульнаадукацыйных мэтах.

**Ігар КАНДРАЛЬ.**

### На чарзе – абласная алімпіяда

***Школьнікі Дзяржыншчыны маюць высокі інтэлектуальны патэнцыял. Гэта засведчылі вынікі раённых прадметных алімпіяд.***

Іх пераможцы, як правіла, абараняюць гонар раёна на абласных алімпіядах, дзе ўпэўнена пацвярджаюць як веды, так і схільнасці да інтэлектуальнага саперніцтва з равеснікамі.

Нядаўна ў беларускай гімназіі райцэнтра была праведзена экспрэс-алімпіяда па матэматыцы для вучняў-васьмікласнікаў. Дваццаць каманд (па тры вучні з кожнай школы) павінны былі прапанаваць журы сумеснае рашэнне задач. Улічваліся ход логікі, вынаходлівасць, эрудыцыя. Задавальненне атрымалі ўсе: вучні, якія дружна, творча працавалі, журы – аналізам мноства варыянтаў прапанаваных нестандартных рашэнняў задач.

Камандзе юных матэматыкаў, якая будзе сфарміравана з вучняў сярэдніх школ Дзяржынска, Фаніпалая, Негарэлага, а таксама шэрагу сельскіх – Дварышчанскай, Валмянскай, Томкавіцкай – прадастаўлена права абараняць гонар раёна на абласной экспрэс-алімпіядзе.

**Тамара ШАЎЧЭНКА.**

## Весткі

### Навасёлкі прыраслі музеем

***У нашай краіне шмат вёсак з прыгожай і мілагучнай назвай Навасёлкі. Ёсць такая і ў Пружанскім раёне. Менавіта ў яе сярэдняй школе створаны этнаграфічны музей, які прыкметна падняў прэстыж сельскага населенага пункта.***

А пачалося ўсё з таго, што члены гуртка дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва сталі збіраць хатнія рэчы, а таксама прылады працы (якімі карысталіся нашы продкі) спачатку ў роднай і навакольных вёсках, а затым і за межамі раёна.

Адзін з пакояў будучага музея нехта прапанаваў аформіць у выглядзе вясковай хаты, накшталт таго, як гэта было зроблена ў вёсцы Люсіна Ганцавіцкага раёна ў школьным музеі імя Якуба Коласа. Прапанова спадабалася, і вось ўжо ўласны музей у Навасёлках прымае гасцей не толькі з Брэсцкай, але і з Гродзенскай абласцей. Адначасова заведзена кніга, у якой можна пакінуць памятны запіс. Іх ужо шмат, адзін з якіх – ад вучоных Нацыянальнай Акадэміі Рэспублікі Беларусь.

### Настаўнік - аўтар гістарычных нататак

***Сёлета Драгічыну спаўняецца 550 гадоў з часу яго першага пісьмовага ўпамінання. З гэтай нагоды райвыканкам зацвердзіў камісію з 22 чалавек, якая ўжо займаецца арганізацыйнымі пытаннямі па падрыхтоўцы да святкавання юбілею горада.***

Так, настаўнік гісторыі гімназіі райцэнтра Сяргей Валасюк пачаў друкаваць у раённай газеце "Драгічынскі веснік" гістарычныя нататкі "Давячоравіцкія карані" з працягам пра доўгі і багаты на драматычныя падзеі шлях, які прайшлі жыхары розных пакаленняў гэтага палескага мястэчка, а цяпер сучаснага горада са шматпавярховымі жылымі дамамі, заасфальтаванымі плошчамі і вуліцамі.

Не застаўся ўбаку і драматычны гурток Драгічынскага Дома творчасці дзяцей і юнацтва пад кіраўніцтвам Галіны Дулевіч, які паспеў паставіць ужо на сцэне спектакль "Віфлеємская зорка". Сваёй першай паэтычнай кнігай "Твое окно" дэбютавала настаўніца гімназіі райцэнтра Алена Дулевіч, якая свае лепшыя вершы друкавала ў "Настаўніцкай газеце".

Самы актыўны ўдзел настаўнікі і вучні школ прымуць у азеляненні і добраўпарадкаванні горада.

**Мікола ПАНАСЮК.**

## Условия проведения открытого конкурса на создание учебников по социально-гуманитарным предметам для общеобразовательных школ Республики Беларусь в 2002 г.

1. Конкурс на создание учебников по социально-гуманитарным предметам проводится в целях обеспечения общеобразовательной школы стабильными учебниками высокого качества, подготовленными в соответствии с новыми образовательными стандартами, программами и педагогическими технологиями.

2. Конкурс на создание учебников для общеобразовательной школы по социально-гуманитарным предметам проводится Министерством образования Республики Беларусь в соответствии с поручением Президента Республики Беларусь Лукашенко А.Г. и является открытым.

3. Конкурсные работы могут представлять как отдельные авторы, так и авторские коллективы.

4. На конкурс принимаются планы-проспекты рукописей, аннотации будущих изданий, а также сами рукописи учебников, разработанные по программам, утвержденным Министерством образования Республики Беларусь.

5. Конкурс проводится по следующим социально-гуманитарным предметам:

Гісторыя Беларусі старажытных часоў. 4 клас.
Гісторыя Беларусі ў сярэднія вякі (VI – XV стст.). 5 клас
Гісторыя Беларусі (XVI – канец XVIII ст ст.). 6 клас.
Гісторыя Беларусі (з канца XVIII ст. да 1917 г.). 7 клас.
Гісторыя Беларусі з 1917 г. да 1945 г. 8 клас.
Гісторыя Беларусі з 1945 г. да нашых дзён. 9 клас.
Гісторыя Беларусі ад старажытных часоў да канца XVIII ст. 10 клас.
Гісторыя Беларусі (канец XVIII – XX ст.). 11 клас.

Человек. Общество. Государство. 8 класс.
Человек. Общество. Государство. 9 класс.
Человек. Общество. Государство. 10 класс.
Человек. Общество. Государство. 11 класс.

Беларуская літаратура. 9 клас.
Беларуская літаратура. 10 клас.
Беларуская літаратура. 11 клас.

Русская литература. 9 класс.
Русская литература. 10 класс.
Русская литература. 11 класс.

6. **Первый этап конкурса** проводится с 1 апреля по 15 мая 2002 года. На этом этапе рассматриваются планы-проспекты рукописей учебников и развернутые аннотации будущих изданий, в которых указываются принципы формирования содержания учебника и способы реализации основных дидактических функций издания, структура учебника с кратким описанием основных элементов издания (основного и дополнительных текстов, методического аппарата, иллюстративного материала).

7. По итогам первого этапа конкурса отбирается не более трех наиболее перспективных планов-проспектов рукописей по каждой дисциплине, авторы которых допускаются к участию во втором этапе конкурса.

8. **Второй этап конкурса** проводится с 15 мая 2002 года по 30 декабря 2002 года. На этом этапе рассматриваются рукописи учебников, подготовленные в соответствии с представленными планами-проспектами и на основе авторских концепций учебников, отраженных в аннотациях к будущим изданиям.

9. Для проведения конкурса Министерством образования Республики Беларусь создается Конкурсная комиссия из числа ведущих специалистов образования и науки с участием представителей Министерства образования.

10. Состав Конкурсной комиссии утверждается Министерством образования Республики Беларусь. Для оценки представленных планов-проспектов рукописей учебников и развернутых аннотаций будущих изданий Конкурсная комиссия на первом этапе конкурса может привлечь учебные заведения и учреждения образования, научно-исследовательские институты.

11. Обсуждение рукописей учебников в Конкурсной комиссии на втором этапе конкурса проводится на основе трех экспертных заключений (рецензий) и личного ознакомления членов комиссии с представленными рукописями. Для проведения экспертной оценки могут привлекаться ведущие специалисты учебных и научных учреждений, секций Научно-методического Совета Министерства образования.

12. Авторы и организации, выдвигающие на конкурс планы-проспекты и рукописи учебников и учебно-методических комплексов, подают заявку в Учреждение "Научно-методический центр учебной книги и средств обучения" Министерства образования Республики Беларусь (220013, г. Минск, ул. Б.Хмельницкого, 3).

13. Срок подачи заявок на участие в конкурсе, а также материалов на первый этап конкурса заканчивается **1 мая 2002 года**, представление рукописей на второй этап конкурса заканчивается **1 декабря 2002 г**.

14. Планы-проспекты, аннотации, а в дальнейшем рукописи учебников представляются в Учреждение "Научно-методический центр учебной книги и средств обучения" Министерства образования Республики Беларусь в трех экземплярах на русском или белорусском языке.

15. К представленным рукописям учебников прилагаются:

заявка на участие в конкурсе или письмо-представление;

сведения об авторах (авторском коллективе) рукописи учебника с указанием фамилии, имени, отчества, ученой степени и звания, специальности, места работы и должности, домашнего адреса, номера служебного и домашнего телефона;

материалы предварительного общественного обсуждения (выписка из протокола совещания, заседания кафедры, педагогического Совета) о выдвижении работы на конкурс в том случае, когда она выдвигается учреждением или организацией.

16. Рукописи должны быть отпечатаны на машинке (набраны на компьютере) со стандартным шрифтом через 2 интервала на одной стороне листа стандартного размера (28-30 строк на листе по 60-65 знаков в строке).

17. Подведение итогов второго этапа конкурса осуществляется Конкурсной комиссией в течение 1 месяца после окончательного срока представления рукописей.

18. По итогам каждого этапа конкурса его участникам в течение 2-х недель высылается соответствующая выписка решения Конкурсной комиссии.

19. Участникам второго этапа конкурса при необходимости предоставляется творческий отпуск с полным сохранением заработной платы по месту основной работы.

20. Финансирование организации конкурса осуществляется Министерством образования Республики Беларусь совместно со специальным фондом Президента Республики Беларусь по социальной поддержке одаренных учащихся и студентов (по согласованию).

21. Для поощрения участников конкурса предусмотрены поощрительные денежные премии и Дипломы Министерства образования Республики Беларусь.

22. Сведения о результатах конкурса публикуются Министерством образования Республики Беларусь в республиканской печати.

***Паважаныя чытачы!***

**Працягваецца падпіска на другі квартал 2002 года. Падпісацца на "Настаўніцкую газету" можна ў любым паштовым аддзяленні ці ў агенцтве "Белсаюздруку"**

***па ранейшым кошце***

НАСТАЎНІЦКАЯ газета – выданне асветнікаў Рэспублікі Беларусь

Падпісны кошт
для індывідуальных падпісчыкаў:
на квартал – 4200 рублёў;
на месяц – 1400 рублёў.
Па ведамаснай падпісцы:
на квартал – 11400 рублёў;
на месяц – 3800 рублёў.
Індэкс для індывідуальнай падпіскі — 63867,
для ведамаснай — 63363.

# Поспех нараджаецца ў канкурэнцыі

***Калі хтосьці не вызначыўся ў сваіх адносінах да прыватных ВНУ, дык можна звярнуцца па тлумачэнні да іх студэнтаў. Як склаўся б лёс гэтых юнакоў і дзяўчат, калі б не такая выдатная магчымасць - пражыць пяць гадоў студэнцкага жыцця і атрымаць даўно абраную прафесію? Вядома ж, інакш.***

***Многія шчыра мараць і аб прафесіі юрыста, і аб прафесіях псіхолага, журналіста... У "бітве" за студэнцкі білет на падступах да дзяржаўных ВНУ большасць з іх была б вымушаная пахаваць свае мары...***

Усе прыватныя ВНУ нашай краіны з'явіліся прыкладна ў адзін і той жа час, на пачатку 1990-х, на хвалі дэмакратызацыі эканомікі. Дакументы, што давалі магчымасць для адкрыцця такіх устаноў, не былі абцяжараны мноствам разнастайных паказчыкаў. І ўзнікалі інстытуты, універсітэты... Напачатку іх з'явілася больш за 20, і быў перыяд станаўлення і выяўлення прыярытэтаў: хтосьці выбіраў за аснову якасць і развіццё сваёй ВНУ, хтосьці схіляўся да яе камерцызацыі, а хтосьці - пайшоў па шляху напаўкрымінальнага існавання. (Быў, здаецца, толькі адзін такі выпадак, але гэтага было дастаткова, каб надоўга пасеяць недавер грамадства і дзяржавы да прыватнага сектара ў адукацыі).

Тым не менш час усё расставіў на месцы. Сёння ў краіне працуюць 12 прыватных вышэйшых навучальных устаноў, дзе толькі на дзённай форме навучання атрымліваюць адукацыю 14 тысяч чалавек. Выдзелілася цэлая група ВНУ і іх кіраўнікоў, якія паставілі для сябе дакладную задачу: стварыць годную матэрыяльную і вучэбна-метадычную базу і, урэшце, узняць якасць і прэстыж уласных дыпломаў.

Грамадства не магло не прызнаць поспеху прыватнай вышэйшай школы. Першым добрым знакам было зняцце слова "недзяржаўныя" з назваў прыватных ВНУ, а таксама дазвол дзейнічаць па адных правілах з дзяржаўнымі навучальнымі ўстановамі. Згодна з праектам Закона аб адукацыі, па выніках акрэдытацыі выпускнікі як дзяржаўных, так і прыватных ВНУ будуць атрымліваць дыпломы адзінага ўзору.

Калі гаварыць пра канкрэтныя дасягненні прыватнай вышэйшай школы, дык трэба адзначыць найперш выдатную камп'ютэрызацыю многіх ВНУ і поспех у развіцці такога новага напрамку як дыстантная адукацыя. Прыкметай сур'ёзнай скіраванасці прыватных ВНУ ў будучае з'яўляюцца іх пашырэнне: уласныя будынкі і новыя будоўлі.

Адна з праблем прыватнай вышэйшай школы, зрэшты, як і дзяржаўнай, гэта праблема кадраў. Ёсць цэлы шэраг спецыяльнасцей (юрыдычныя, лінгвістычныя), дзе кадраў катастрафічна не хапае. "Прыватнікі" вырашаюць гэтую праблему самымі рознымі шляхамі - накіроўваюць сваіх выкладчыкаў у аспірантуру, на стажыроўкі... Нарматывы Міністэрства адукацыі падчас атэстацыі з мэтай акрэдытацыі ў дачыненні да кадраў вельмі высокія. Сёння прыватныя ВНУ вядуць навучанне больш чым па трыццаці спецыяльнасцях, пераважна гуманітарнага профілю. Самымі папулярнымі ў моладзі застаюцца эканамічныя, юрыдычныя спецыяльнасці і псіхалогія. Пры прыёме на юрыдычныя спецыяльнасці летась у прыватных ВНУ быў конкурс - ад 1,1 да 1,6. І большасць навучальных устаноў ужо адмаўляецца ад субяседавання, праводзячы пісьмовы экзамен або тэсціраванне. Такім чынам, планка патрабаванняў да абітурыентаў у прыватных ВНУ таксама падымаецца.

Ва ўмовах цеснага суіснавання з дзяржаўнымі навучальнымі ўстановамі "прыватнікі" ўвесь час імкнуцца максімальна выкарыстоўваць свае перавагі, звязаныя з фінансавай свабодай і магчымасцю набываць сучасную літаратуру, камп'ютэрную тэхніку, найноўшае праграмнае забеспячэнне. Будучы вельмі мабільнымі і адчувальнымі да рынку працы, прыватныя ВНУ імкнуцца пастаянна карэкціраваць адукацыйныя праграмы з улікам інтарэсаў фірм-работадаўцаў. І ў выніку, без сумнення, прыватная школа вымушае і дзяржаўныя ВНУ больш актыўна займацца абнаўленнем вучэбна-метадычнай і матэрыяльнай базы, быць больш адпаведнымі часу.

Паступіць у ВНУ - гэта палова справы, трэба яшчэ атрымаць там дастатковую колькасць ведаў і пасля заканчэння - знайсці сабе месца на рынку працы. Тыя вышэйшыя навучальныя ўстановы, чые выпускнікі будуць "нарасхват", - маюць неблагія перспектывы. А для нашай краіны (маркуючы па апошніх захадах дзяржаўных органаў ў дачыненні да прыватнай адукацыі) няважна, якая форма ўласнасці той ці іншай ВНУ, галоўнае - каб яна прыносіла карысць грамадству.

**Генадзь АНДРЭЕЎ.**

**Калаж Юрыя БОНДАРАВА.**

# Ёсць магчымасць зарабіць на вучобу

***Увядзенне платных форм навучання ў дзяржаўных ВНУ было абумоўлена павышаным попытам моладзі на вышэйшую адукацыю. У Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце ўжо і не памятаюць, ці быў тут калі недахоп у абітурыентах. Таму сёння ва універсітэце платны "сэрвіс" квітнее і пры гэтым наладжаны з улікам фінансавых магчымасцей насельніцтва.***

Сёння падрыхтоўку спецыялістаў эканамічнага профілю ажыццяўляюць (хоць і не па ўсім спектры спецыяльнасцей) амаль усе дзяржаўныя вышэйшыя навучальныя ўстановы і абсалютная большасць прыватных ВНУ. Ва ўмовах перанасычанасці рынку прафесій эканамічных спецыяльнасцей канкурэнтаздольнымі і запатрабаванымі аказваюцца толькі прафесіяналы найвышэйшага ўзроўню. Менавіта такі ўзровень імкнуцца забяспечыць у БДЭУ.

Як і ў большасці ВНУ, у Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце, каб паступіць на платнае аддзяленне, трэба здаваць экзамены на агульных умовах. Залічэнне праводзіцца па выніках экзаменаў. Напачатку – на бюджэтныя месцы згодна з кантрольнымі лічбамі плана прыёму. А тым абітурыентам, што не вытрымалі конкурсу, прапануюць вучыцца за кошт уласных сродкаў. Было б беспадстаўна і памылкова лічыць, што атрымліваць адукацыю за грошы – доля тых студэнтаў, якія паказалі не самыя лепшыя веды на ўступных іспытах. Хапае на платных аддзяленнях БДЭУ і тых, хто недабраў літаральна паўбала, каб прайсці па конкурсу на бюджэтнае аддзяленне. Ім проста, як кажуць, не пашчасціла.

Як сцвярджае Мікалай Міхайлавіч Ільін, прарэктар па вучэбнай рабоце Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта, факультэцкія прыёмныя камісіі звычайна стараюцца не адмаўляць абітурыентам, якія вытрымалі ўсе ўступныя экзамены. Аднак гэта не заўсёды атрымліваецца. І на платныя аддзяленні трапляюць далёка не ўсе, хто хацеў бы: пры паступленні на некаторыя спецыяльнасці існуе конкурс. Да прыкладу, падчас апошняй прыёмнай кампаніі вучыцца на платным аддзяленні факультэта міжнародных эканамічных адносін было адмоўлена ўсім, хто набраў на ўступных экзаменах менш за дванаццаць балаў.

Аднак колькасць уступных экзаменаў аднолькавая на ўсіх факультэтах (матэматыка, беларуская (руская) мова і літаратура, замежная мова), і ў абітурыентаў, што не прайшлі па конкурсу на платнае аддзяленне, ёсць шанс быць залічанымі на іншы факультэт, дзе конкурс ніжэйшы і, натуральна, ёсць "вакантныя" месцы. На такое "аўтаматычнае" залічэнне не могуць прэтэндаваць толькі абітурыенты, якія не здавалі экзамен па замежнай мове па спецыяльнай праграме (пры паступленні на некаторыя спецыяльнасці, звязаныя са знешняй эканамічнай дзейнасцю – МЭА, фінансы і крэдыты, знешні гандаль, – існуюць павышаныя патрабаванні да ведання замежнай мовы). Гэткае пераразмеркаванне дазваляе рацыянальна фарміраваць патокі і групы ў выпадках, калі па факультэтах рэальная колькасць абітурыентаў не супадае з планам прыёму.

***

Рашэнне "вучыцца за грошы" прымаюць, як правіла, бацькі абітурыента, а не ён сам. І далёка не ўсе з іх аказваюцца прадбачлівымі, не ўсе могуць рэальна ўзважыць свае фінансавыя магчымасці. Часта разважаюць так: "Пакуль грошы ёсць, а далей пабачым". Аднак парою жыццё аказваецца непрадказальным і больш складаным, чым таго хацелася б... І вось – пагроза "вылецець" з універсітэта з-за немагчымасці плаціць. Нехта пераводзіцца на завочнае аддзяленне (аплата ў два разы ніжэй), а нехта робіць вымушаны перапынак у вучобе, каб зарабіць грошы і аднавіць навучанне.

Апошнім часам многія студэнты БДЭУ выбіраюць працаўладкаванне за мяжой як варыянт зарабіць на вучобу. Ва універсітэце ёсць магчымасці па арганізацыі такіх паездак на летнія месяцы ці на год. Гэтым займаецца Цэнтр па студэнцкіх міжнародных абменах, які не так даўно створаны пры аддзеле па міжнародных сувязях. Супрацоўнікі дэканатаў звычайна ідуць насустрач тым студэнтам, якія вырашылі ўзяць удзел у той ці іншай праграме цэнтра, і разглядаюць гэта як сур'ёзную падставу для датэрміновай здачы сесіі ці дазволу на акадэмічны водпуск.

Часта бацькі даюць згоду плаціць грошы за навучанне сваіх дзяцей, калі ведаюць, што дзяржаўныя ВНУ прадастаўляюць паспяховым студэнтам права перавесціся з платнага аддзялення на бюджэтнае. На гэта ў асноўным і разлічваюць. Але большасць абітурыентаў і іх бацькоў нават і не падазрае, што гэтыя магчымасці – вельмі і вельмі абмежаваныя.

У Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце таксама дзейнічае палажэнне аб пераводзе з платнай формы навучання на бюджэтную. Яно прадугледжвае вучобу выключна на "пяць" не менш чым два семестры і наяўнасць свабодных бюджэтных месцаў. Уся бяда ў тым, што якраз свабодных месцаў у бюджэтных групах заўсёды аказваецца недастаткова – значна меней, чым студэнтаў, якія прэтэндуюць на скасаванне аплаты. Па словах М.М.Ільіна, гэта абумоўлена тым, што з бюджэтных аддзяленняў адсеў крыху меншы, чым з платных, бо вучыцца "бясплатна" – сапраўды значная прывілея, і сучасная моладзь яе вельмі цэніць.

З прычыны абмежаваных магчымасцей пераводу на навучанне за кошт сродкаў дзяржбюджэту студэнты БДЭУ маюць права перапаступаць. Штогод частка з іх здае тыя ж уступныя экзамены і, калі вытрымлівае конкурс, залічваецца на бюджэтныя месцы. Акрамя таго, беручы пад увагу цяжкае матэрыяльнае становішча студэнтаў, якія плацяць грошы за навучанне (сямейныя абставіны, стан здароўя бацькоў), адміністрацыя універсітэта ў асобных, прыватных, выпадках ідзе на зніжэнне аплаты.

Для таго каб неяк захаваць найбольш паспяховых студэнтаў-"платнікаў", рэктарат БДЭУ прыняў рашэнне аб штогадовым скасаванні аплаты для выдатнікаў на 25 працэнтаў. Такім чынам, каб плаціць удвая менш, студэнт павінен два гады вучыцца толькі на пяцёркі. Як аказалася, выдатная вучоба на працягу некалькіх гадоў – умова цалкам выканальная і з'ява даволі распаўсюджаная. Падобная сістэма заахвочвання выдатнікаў, якія вучацца за кошт уласных сродкаў – гэта, безумоўна, моцны стымул для стараннай і паспяховай вучобы. А чым больш грунтоўныя, усебаковыя веды атрымае чалавек, тым лепш ён авалодае будучай прафесіяй.

***

Сёння ў Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце колькасць студэнтаў-"платнікаў" складае больш як 40 працэнтаў (на дзённым аддзяленні). Гэтая лічба застаецца адносна стабільнай ужо некалькі гадоў. Зніжаецца толькі працэнт студэнтаў, за якіх плацяць арганізацыі ці прадпрыемствы. Цяпер у БДЭУ больш за тысячу студэнтаў атрымлівае другую вышэйшую адукацыю. Акрамя гэтага, не так даўно ўведзены платныя курсы перападрыхтоўкі, па заканчэнні якіх выдаецца дыплом з прысваеннем новай, эканамічнай кваліфікацыі.

Паводле слоў М.М.Ільіна, у бліжэйшы час пашырэння платных адукацыйных паслуг ва універсітэце не прадбачыцца. Калі і адбываецца пэўны "прырост" платнага сектара, дык толькі на завочных аддзяленнях і ў філіялах, што адкрыліся ў Бабруйску і Пінску.

– На сённяшні дзень мы не можам павялічваць колькасць платных месцаў па дзвюх прычынах, – гаворыць Мікалай Міхайлавіч. – Па-першае, абмежаваныя магчымасці матэрыяльна-тэхнічнай базы універсітэта, асабліва недахоп вучэбных плошчаў і памяшканняў, дзе можна было б размясціць дастатковую колькасць студэнтаў, не дазваляюць павышаць планы прыёму як па бюджэтнай форме навучання, так і па платнай. А па-другое, мы павінны ўлічваць рэальную плацёжаздольнасць грамадзян. Хоць прэстыж ведаў і адукацыі апошнім часам значна павысіўся – і гэта важкая прычына таго, што універсітэт не мае недахопу ў абітурыентах, – але як бы там ні было, а платная адукацыя ўяўляе сабой пэўныя цяжкасці для насельніцтва. Таму мы імкнемся ўстанаўліваць мінімальную суму аплаты. Сёння яна складае 860–920 умоўных адзінак, тады як рэальны кошт адукацыі, які фарміруецца зыходзячы з выдаткаў на падрыхтоўку спецыяліста, складае прыкладна 1100 умоўных адзінак. І мы вымушаны заніжаць узровень аплаты, каб захаваць кантынгент платных аддзяленняў. Такой дадатковай крыніцы, як аплата за навучанне, становіцца недастаткова, каб пашырыць матэрыяльна-тэхнічныя магчымасці універсітэта. А на гэтым можна эканоміць толькі да пэўнай мяжы. Відавочна, што калі такое становішча будзе захоўвацца яшчэ пэўны час, гэта абавязкова адаб'ецца на якасці адукацыі.

**Іна НІКІЦЕНКА.**

# Задачы ў прыватных ВНУ - дзяржаўныя

***Пра тое, чым жыве прыватная вышэйшая школа, мы гутарым з рэктарам Інстытута парламентарызму і прадпрымальніцтва Алегам Марозавым.***

**- Скажыце, Алег Вячаслававіч, на якім этапе станаўлення знаходзяцца цяпер прыватныя ВНУ?**

- Адчуваем сябе злёгку акрылёнымі, бо, здаецца, скончылася неапраўдана жорсткая палітыка ў дачыненні да прыватных навучальных устаноў. З прыходам новых людзей у Адміністрацыю Прэзідэнта і ў Міністэрства адукацыі адбылося ўсведамленне таго, што ў перыяд аб'яўленай лібералізацыі эканомікі і развіцця дэмакрытычных асноў дзяржавы нельга стрымліваць прыватны сектар як у галіне побытавага абслугоўвання ці сельскай гаспадаркі, гэтак і ў галіне адукацыі.

Мы знайшлі разуменне ў прававых адносінах: з назваў прыватных ВНУ было знята некарэктнае слова "недзяржаўныя", мы блізкія да таго, што Закон аб адукацыі замацуе норму аб выдачы дыплома адзінага ўзору. Прыватная адукацыя здольная пераканаўча даказаць, што яна можа заняць моцныя пазіцыі - у сілу сваёй мабільнасці і дынамічнага вырашэння кадравых і матэрыяльных пытанняў.

З майго пункту гледжання, ужо ў бліжэйшы час павінна адбыцца вывярэнне пазіцый у дачыненні да прыватнай адукацыі з боку дзяржаўных структур. І мы вельмі спадзяёмся, што зможам свабодна ўвайсці ў агульную сістэму адукацыі і разам вырашаць дзяржаўную задачу больш якаснай і масавай вышэйшай адукацыі з улікам усіх сусветных працэсаў у гэтай сферы.

**- Як вырашана ў прыватных ВНУ праблема з кадрамі?**

- Працэс фарміравання кадравага складу пачынаўся з таго, што да нас прыйшлі педагогі з дзяржаўных навучальных устаноў. І ў першы перыяд многія вельмі ахвотна супрацоўнічалі з прыватнай школай, бо яна прапаноўвала добрую зарплату і, можа, прад'яўляла не такія высокія патрабаванні. Таму выкладанне ў трох, а то і пяці ВНУ лічылася ледзь не нормай, а кіраўнікі навучальных устаноў часам заплюшчвалі на гэта вочы, бо знайсці іншага выкладчыка было няпроста.

Аднак у прыватных ВНУ быў прыярытэт: сфарміраваць свой штат выкладчыкаў. Вядома ж, гэты працэс зацягнуўся, бо спецыялістаў у нашай галіне трэба рыхтаваць вельмі доўга - гэта асаблівая праца. І ўсё ж многія ВНУ за апошнія гады стварылі ўласныя калектывы.

Не хацелася б ацэньваць кваліфікацыйны ўзровень педагогаў у той ці іншай ВНУ. Магу толькі сказаць, што я задаволены тым калектывам, які склаўся ў нашым інстытуце, і той добрапрыстойнай абстаноўкай, якую мы сабе стварылі. Я вельмі цаню кваліфікацыйны ўзровень нашых маладых выкладчыкаў, ведаю які добры ў іх патэнцыял. Я цаню і тых вопытных педагогаў, якія могуць гнутка рэагаваць на ўсе палітычныя, эканамічныя і сацыяльныя змены ў грамадстве. Ніводзін з нашых выкладчыкаў не абцяжараны грузам вопыту выкладання грамадскіх дысцыплін у тыя часы, калі веды факусіраваліся на пэўнай ідэі. І сёння, абапіраючыся на лепшыя традыцыі савецкай школы, мы нясём сучасныя веды.

**- Інстытут перламентарызму і прадпрымальніцтва будуецца, і наступны навучальны год вы ўжо плануеце пачаць ва ўласным будынку. Скажыце, Алег Вячаслававіч, якімі намаганнямі вядуць будаўніцтва прыватныя ВНУ?**

- Праблему стварэння ўласнай матэрыяльнай базы кожная навучальная ўстанова вырашае па сваім разуменні сваімі сіламі. Сёння, на жаль, прынцып крэдытавання сістэмы адукацыі такі ж, як і пякарні, аўтамабільнай майстэрні і г.д. І тыя кіраўнікі, што жывуць ідэяй якаснага развіцця сваіх ВНУ, працуюць у вельмі складаных умовах. Таму нельга пераацаніць важнасць умення кіраўніка, эканамічных служб інстытута акумуляваць сродкі для стварэння матэрыяльнай базы.

Наш інстытут вельмі дынамічна развіваецца, хаця знаходзіцца на адной з ніжэйшых ступеняў (у добрым сэнсе) па ўзроўні аплаты сярод прыватных ВНУ, не кажучы ўжо пра дзяржаўныя. Сёння мы даводзім да ладу адпаведныя плошчы ў трох месцах, і наступны год, мяркуем, будзе годам наваселляў. Хаця планы на будаўніцтва ў будучым таксама вялізныя. І гэта паказчык таго, як прафесійна вырашаюцца эканамічныя пытанні ў прыватных ВНУ.

З самага пачатку мы былі ў няроўных умовах з дзяржаўнымі навучальнымі ўстановамі, і нас часта папракалі: маўляў, у прыватных ВНУ няма ўласных плошчаў, багатых бібліятэк... Але трэба помніць, што бібліятэкі вядучых дзяржаўных навучальных устаноў фарміраваліся на працягу 60-80-ці гадоў - такія юбілеі яны ўжо адзначылі. Іншая справа, што дзве трэці літаратуры ў гэтых бібліятэках нікому не патрэбныя. А тое, што ў нашай бібліятэцы няма ніводнай кнігі, якая б не мела сучасных ведаў, - часам забываюць. Калі б мы стартавалі ў такіх палацах, якія мае БДУ ці політэхнічная акадэмія!.. А ў гэтых жа будынінах унаяўлены і мой падаходны падатак, і падаткі бацькоў маіх студэнтаў. Мы ж пачыналі з нуля, з заёмных сродкаў, на свае страх і рызыку, без капейкі бюджэтнага фінансавання.

Сёння вельмі важна - дах над галавой, а большасць прыватных ВНУ яго не мае. І я ўдвая ўдзячны сваім выкладчыкам за тое, што калі разлічваецца эканоміка інстытута і я ў першую чаргу закладваю развіццё матэрыяльнай базы, яны гэта падтрымліваюць.

Надзвычай важна ўмела распарадзіцца фінансамі: каб узровень аплаты быў прымальным для абітурыентаў і набор студэнтаў не зніжаўся; каб узровень заробку выкладчыкаў адпавядаў патрабаванням спецыялістаў высокага класа; каб умовы для вучобы студэнтаў былі найлепшымі. І з адкрыццём новай базы, я думаю, мы апынемся, на самых спрыяльных пазіцыях. Хаця і сёння па ступені абсталяванасці нашых аўдыторый, лабараторый і інтэрнатаў мы можам паспрачацца з любой ВНУ.

**- У вас ужо было некалькі выпускаў. Як працаўладкоўваюцца вашы выпускнікі?**

- Я памятаю ўсіх сваіх студэнтаў па імені і прозвішчу, яшчэ падчас іхняй вучобы ведаў, куды яны пойдуць працаваць пасля інстытута. Бо працэсам арганізацыі іх практык і стажыровак займаліся не выпадковыя людзі, а загадчыкі кафедраў, рэктарат. І сёння я магу казаць, што нашы выпускнікі працуюць у самых розных сферах - ад Міністэрства замежных спраў, буйнейшых банкаў і страхавых кампаній да самых розных прадпрыемстваў. Ёсць у нас і выпускнікі, што па спецыяльнасці ўладкаваліся ў ЗША, Англіі, Польшчы, Чэхіі, Славакіі, Германіі, Францыі, Украіне, Расіі. І я ведаю, яны дасягнулі поспеху таму, што атрымалі ў інстытуце сучасныя веды, ужо з першага курса маючы магчымасць дакладна сфакусіраваць свае адукацыйныя патрэбы і намаганні ў той сферы, якая іх найбольш вабіла.

Вялікая перавага нашай прыватнай ВНУ ў тым, што мы маем самыя цесныя сувязі з новымі структурамі рознага маштабу і рознага напрамку, якія працуюць на рынку краіны. А мне вырашаць праблему працаўладкавання выпускнікоў удвая прыемней і прасцей, бо я з'яўляюся кіраўніком Саюза інвестараў Рэспублікі Беларусь, у сферу якіх уваходзіць больш за 2500 сумесных і замежных прадпрыемстваў. І ў цяжкі для эканомікі час усе яны пераважна на плаву і нясуць станоўчы эканамічны зарад.

Маючы такія трывалыя сувязі, для нас не праблема з першага курса так арганізаваць практыку студэнта, каб ён знайшоў сваё месца і да заканчэння інстытута ведаў, куды падацца на працу.

**- Вельмі далікатнае пытанне, Алег Вячаслававіч: ці шмат студэнтаў пакідае ВНУ з-за немагчымасці аплаціць вучобу?**

- Пакідаюць ВНУ нямногія. Часцей студэнты пераходзяць на завочную форму навучання, дзе аплата ўдвая меншая, чым на дзённай (дарэчы сказаць - у нас яна самая нізкая на завочным аддзяленні з усіх ВНУ краіны).

З кожным студэнтам, які мае намер пакінуць інстытут ці перавесціся на завочнае навучанне, я абавязкова сустракаюся. Не было ніводнага, з кім бы мы не пагаварылі і не высветлілі прычын. Калі прычынай з'яўляецца ўсё ж адсутнасць сродкаў, мы шукаем усе магчымыя варыянты - аж да адтэрміноўкі, зніжэння аплаты, унутранага крэдытавання...

**- Ці надаюць увагу прыватныя ВНУ пазавучэбнай дзейнасці студэнтаў, займаючыся іх выхаваннем?**

- Я перакананы, што выхаванне ідзе да чалавека з ведамі. Калі на кафедры, у лабараторыі, у аўдыторыі са студэнтамі працуе педагог высокага класа, можна быць упэўненым, што яго выхаванасць і інтэлігентнасць "пераруюцца" і ў студэнцкія роздумы. А ў звыклым разуменні выхавання, што вядзецца па-за межамі аўдыторыі, - дык у нас гэта найперш нацыянальная каманда па амерыканскаму футболу, неаднаразовы прызёр і чэмпіён СНД; поўнае непрыняцце тытуню - студэнты ведаюць, што паліць можна толькі за кіламетр ад інстытута, і ніводзін выкладчык не дазволіць сабе цыгарэту ў прысутнасці рэктара ці студэнта, як не дазволіць сабе і бестактоўнасці - гэта правіла!

Наша самая творчая моладзь наведвае філармонію, дзе разам з Ірынай Дарафеевай мы стварылі сваю музычную студыю. Ёсць свае танцавальныя і тэатральныя калектывы... Так, гэта як быццам і не арыгінальна! Але калі побач са студэнтамі выступаюць іх выкладчыкі, а ў рок-групе бярэ ўдзел рэктар - гэта робіць справу масавай і "выхаваўчай".

Такое - наша студэнцкае жыццё. Аднак асновай выхавання я ўсё ж лічу маральнае і інтэлектуальнае аблічча педагога, яго захапленні, яго адносіны да самой справы.

У нас актыўна працуе інстытут куратарства. Але я вельмі далікатна стаўлюся да гэтага пытання, лічу, што значную частку вольнага часу варта пакінуць студэнту для яго ўнутраных патрэб. І не трэба баяцца выхаваўчага вакууму: пасля ўзаемін з выдатнымі педагогамі, я ўпэўнены, малады чалавек запоўніць свой час цікавымі ведамі і ўменнямі, карыснымі сустрэчамі.

**- У прадчуванні дэмаграфічнай праблемы ВНУ ўжо сёння распрацоўваюць стратэгіі барацьбы за абітурыентаў. Якім чынам прыватныя навучальныя ўстановы плануюць вырашаць гэтую праблему?**

- Мы ўжо сёння шукаем свайго абітурыента ў канкурэнтным асяроддзі. Але аналітыка паказвае, што кожны другі студэнт прыходзіць да нас па парадзе тых, хто ўжо вучыцца ў нашым інстытуце. І таму - як бы банальна гэта ні гучала! - можна казаць, што галоўным складнікам поспеху кожнай ВНУ з'яўляецца якасны ўзровень ва ўсіх вымярэннях. Будзе гэта - нам не страшная дэмаграфічная яма. Больш за тое, ёсць усе падставы меркаваць, што ў бліжэйшай будучыні рэйтынг асобных прыватных ВНУ па асобных спецыяльнасцях перавысіць рэйтынг многіх дзяржаўных ВНУ.

Думаю, што да дэмаграфічнай ямы мы падыдзем і з усплёскам эканамічнага росту, а гэта дазволіць людзям плаціць за якасную адукацыю і ўсе спадарожныя паслугі.

Што да мяне, дык я вельмі асцярожна стаўлюся да павелічэння колькасці студэнтаў у сваім інстытуце. Мы знайшлі аптымальную колькасць і па спецыяльнасцях, і па факультэтах, а таксама аптымальную суадноснасць дзённага і завочнага навучання. І я б вельмі не хацеў адарвацца ад адчування таго, што адбываецца на патоках і ў групах, наколькі якасна вядзецца сам працэс навучання. Пры сённяшняй колькасці студэнтаў усё гэта мне цалкам падкантрольна.

Такім чынам, павышаючы якасць навучання ў нашым інстытуце, мы мяркуем захаваць цяперашні набор. А прыватная ВНУ не павінна быць вялікай, яна павінна мець перавагі па асобных спецыяльнасцях.

**- Дзякуй, Алег Вячаслававіч, за гутарку. І поспехаў Вашаму інстытуту!**

**Гутарыла Галіна СІДАРОВІЧ.**

Выставы

# Лісты часу

**_Пазаўчора ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі адкрылася мастацкая выстава "Лісты часу. Жывапіс, графіка, пластыка", прысвечаная 130-годдзю з дня нараджэння аднаго з самых вядомых майстроў беларускага пейзажнага жывапісу - народжанага на берагах Друці Вітольда Бялыніцкага-Бірулі. Поруч з бессмяротнымі палотнамі слыннага класіка ў экспазіцыі прадстаўлены творы яго таленавітых сучасных землякоў-нашчадкаў, ураджэнцаў бялыніцкага Падруцця: жывапісца Віктара Альшэўскага, скульптара Уладзіміра Панцялеева і графіка Ларысы Журавовіч._**



Вітольд Каятанавіч Бялыніцкі-Біруля (1872 - 1947) - культавая, знакавая і загадкавая постаць у беларускім мастацтве. Адзін з самых апошніх акадэмікаў жывапісу Расійскай імператарскай акадэміі мастацтваў і адзін з самых першых беларускіх савецкіх акадэмікаў. Народны мастак Расійскай Федэрацыі і ўадначассе - народны мастак БССР. Творца ў аднолькавай ступені пладавіты і таленавіты, сутнасць таленту якога вызначыў яшчэ Ілля Рэпін: "Я так прывык асвяжацца душой перад вашымі лініямі праўды, прастаты і свабоды". Да слова, наш сучасны пісьменнік Віктар Карамазаў, аўтар кніжкі пра Бялыніцкага-Бірулю, прыкмеціў іншае: "Ён умеў не толькі слухаць цішыню, але і чуць яе..."

Пазаўчора, падчас адкрыцця выставы, я ўпершыню даведаўся, як правільна трэба вымаўляць прозвішча вялікага мастака - Бялыніцкі-Біруля. Не Біруля, а Біруля - з націскам якраз на апошнім складзе. Гэтак, кажуць, называў сябе сам Вітольд Каятанавіч. У гэткай арфаэпічнай форме я пачуў слаўнае прозвішча і з вуснаў многіх выступоўцаў у музеі: намесніка Міністра культуры Валерыя Гедройца, старшыні Беларускага саюза мастакоў Уладзіміра Басалыгі, прэзідэнта Беларускай акадэміі выяўленчага мастацтва Фелікса Янушкевіча, прарэктара Беларускай акадэміі мастацтваў Міхася Баразны, прадстаўнікоў Бялыніцкай адміністрацыі і спонсараў (ТАА "Осткам-Плюс", ААТ "Керамін").



Нечаканае адкрыццё падштурхнула мяне да нечаканага роздуму. Раней, з націскам на "ру", прозвішча гучала для мяне як сцвярджэнне: класік, пачынальнік, культ. І, здавалася, спакойная лірычная мелодыя, якую ўтваралі мяккія пастэльныя таны яго твораў, і якраз сціхала дзесьці там, у гісторыі, няхай і не надта далёкай... Цяпер жа, з гэтым нязвычным націскам на апошнюю "ноту" "ля", інтанацыя вымаўлення быццам бы схіляе да пытання: ці ж не яна, чароўная мелодыя Бялыніцкага-Бірулі, так востра адчуваецца ў мастацкіх творах сучасных аўтараў, ягоных землякоў? Ці ж не яна - у абсалютна розных і найноўшых "аранжыроўках" - ліецца ў "сюррэалістычна-рамантычна-мадэрновых" явішчах Віктара Альшэўскага, скульптурным "тайнапісе" Уладзіміра Панцялеева, "інсітнай" графіцы Ларысы Журавовіч?..

Ёсць вельмі важны фактар мастацкай творчасці, які немагчыма аспрэчыць, - пачуццё ўдзячнасці да Радзімы, яе духоўных скарбаў. І, можа быць, не менш важны - імкненне гаварыць сваім мастацтвам тое, што лічыш неабходным сказаць, і так, як толькі ты адзін гэта можаш сказаць, іншымі словамі, пачуццё аўтарскай канцэпцыі, уласнага "я" творцы. Адмысловая канцэпцыя "Лістоў часу", дзе прадстаўлены адразу чатыры творцы розных пакаленняў і розных мастацкіх напрамкаў, але якіх аб'ядноўвае адна зямля, адна іх "маленькая" радзіма, акурат і актуалізуе адразу два гэтыя моманты: патрыятычнасці і праўдзівасці. Непадзельныя моманты.

Выстава будзе працаваць да 22 сакавіка - добрая магчымасць пашырыць уяўленне пра мастацтва. І пра радзіму - таксама.

**Мікола ЧЭМЕР.**





НА ЗДЫМКАХ: І.Грабар. Партрэт Бялыніцкага-Бірулі; У.Панцялееў. Млечны шлях; Л.Журавовіч. Велікодны нацюрморт; В.Альшэўскі. Імгненне ў прасторы.

На жыццёвых скрыжаваннях

# "Чорныя бровы, карыя вочы..."

Упершыню Надзейка пабачыла Ігара на ўступных экзаменах. І ёй, аж да нейкага шчымлівага болю ў сэрцы, раптам так захацелася паступіць у гэтую ВНУ, ды яшчэ каб Ігар аказаўся з ёй у адной групе.

Кажуць, марыць часам бывае небяспечна, бо мары могуць і здзяйсняцца.

Надзейка паступіла ў ВНУ і, сапраўды, аказалася з Ігарам у адной групе.

Замкнёная і маўклівая па натуры Надзея спачатку не вельмі ўступала ў размовы з аднакурснікамі, усё больш прыглядвалася ды прыслухоўвалася. Але хутка выявілася, што яе веды, атрыманыя ў сельскай школе, не горшыя за веды выпускнікоў гарадскіх школ. Парады сябровак слухала ўважліва, гледзячы на іх, падкараціла свае сукеначкі і спаднічкі, зрабіла модную стрыжку, набыла такую-сякую касметыку. У хуткім часе Надзейка ўжо не адчувала сябе правінцыялкай ні ў аўдыторыі, ні на інстытуцкіх вечарах. Увесь гэты год дзяўчына не вельмі думала пра Ігара, толькі ў яго прысутнасці ў яе на душы святлела, і адчувала яна нейкі незразумелы выбух радасці, калі Ігар звяртаўся да яе з якой-небудзь нагоды.

На другім курсе студэнтаў адправілі на бульбу. Дзяўчаткі і хлопцы жвава, з жартамі размясціліся на калгаснай машыне. У паездцы ўсе дружна і весела спявалі. Уздумалася некаму спець старыя песні. Спачатку пачалі са смехам, а потым усіх захапіла напеўная прастата і шчырасць народнай музыкі. "Чорныя бровы, карыя вочы..." - выводзіла Надзейка разам з усімі. І раптам яе бы токам ударыла: Ігар сядзеў насупраць, а бровы ў яго - чорныя-чорныя і вочы карыя-карыя, зусім як у песні.

"Я кахаю Ігара", - раптам зразумела Надзейка. Імгненна ўсё навокал перамянілася, усё зазіхацела рознымі колерамі вясёлкі, усе гукі здаліся прыемна-мілагучнымі, а пахі - з п'янкой асалодай. Аднакурснікі пелі і смяяліся, як і раней, а Надзейцы хацелася закрычаць: "Ды гляньце ж вы, якое высокае неба! Якое ласкавае сонейка! Як прыгожа пераліваецца густа-жоўтым збажына!"

Аднак жа Надзейка прамаўчала, не прызналася ў сваім вялікім адкрыцці нават лепшай сяброўцы Алёнцы. Дзяўчына старалася захаваць ад усіх сваю трапяткую тайну, нават пачала пазбягаць Ігара. Хлопец гэта заўважыў, запытаўся здзіўлена: "Надзейка, я цябе пакрыўдзіў?" "Ды не, я проста стамілася", - зачырванеўшыся, падманула яна.

Калі пасля працы студэнты вярнуліся на заняткі, у жыцці Надзейкі нічога не змянілася. Яна ціха марыла аб сустрэчы з Ігарам, раскладвала бясконцыя пасьянсы "на жаданні" ды варажыла сабе на картах, якія абяцалі ёй то "спатканне", то "сустрэчу ў казённым доме".

Ледзь толькі Надзейка ўваходзіла ў аўдыторыю, тут жа, не гледзячы, ужо адчувала: прыйшоў Ігар ці яго яшчэ няма.

Мары засланялі ад яе рэльнае жыццё, яна не звяртала ўвагі на іншых хлопцаў, жыла толькі сваімі летуценнямі ды пісала вершыкі ў запаветны сшытак.

Аднойчы Надзейка паказала свае вершы Алёнцы. "Ды ты па вушы закахалася ў Ігара! - усклікнула сяброўка. - Толькі ні на што не спадзявайся. Яму падабаецца іншая дзяўчына".

На чацвёртым курсе лепшых студэнтаў узнагародзілі экскурсійнай паездкай у Мінск. Надзейка радавалася, таму што Ігар таксама ехаў на экскурсію.

Аднойчы ў час вячэры ў Мінску Ігар сказаў: "Лена! Хадзем са мной у тэатр. Я купіў білеты на "Паўлінку". "Прабач, я стамілася", - сказала Алена і піхнула Надзейку локцем.

Ігар няўпэўнена ўсміхнуўся і неяк звысоку кінуў Надзейцы: "Ну, тады ты ідзі са мной". Над сталом навісла напружаная цішыня.

"Ігар, так рабіць нельга", - строга заўважыла староста групы Людміла.

З цяжкасцю пракаўтнуўшы камяк у горле, Надзея вымавіла: "Дзякуй. Я не пайду. Я таксама - стамілася".

Увечары, пранізліва зазірнуўшы Надзейцы ў вочы, Алена жорстка вымавіла: "Запомні, сяброўка, ты сама ад яго адмовілася. А ў Ігара бацька - вялікі начальнік. Будзе і кватэра, і машына".

...На вяселле Алены і Ігара Надзейка не пайшла.

Лепшы сродак ад болю - час. Ён дапамог і Надзейцы.

Але доўга яшчэ ўзнікаў шчымлівы боль у сэрцы, калі яна чула па радыё "Чорныя бровы, карыя вочы..."

**Галіна КАПЕЦКАЯ,**
**настаўніца гімназіі, Светлагорск.**

Новыя кнігі

# Усё аб традыцыйнай мастацкай культуры беларусаў

**_Аб яе лепшых здабытках і сучасных праявах на рубяжы другога і трэцяга тысячагоддзяў мае на мэце расказаць толькі што распачатая выдавецтвам "Беларуская навука" шасцітомная серыя "Традыцыйная мастацкая культура беларусаў"._**

Першы том навукова-папулярнай серыі прысвечаны Магілёўскаму Падняпроўю - аднаму з шасці гісторыка-этнаграфічных рэгіёнаў Беларусі. У наступных пяці тамах будуць прадстаўлены традыцыі беларускай мастацкай культуры Паазер'я, Усходняга і Заходняга Палесся, Панямоння, Цэнтральнай Беларусі. Такая задача серыі - прадметна і пераканаўча раскрыць складаную сістэму традыцыйнай мастацкай культуры беларусаў ва ўсім яе рэгіянальным багацці і разнастайнасці відаў як у мінулым, так і сёння.

Першая кніга серыі з'яўляецца вынікам трохгадовага (1993-1995) шматаспектнага экспедыцыйнага абследавання тэрыторыі рэгіёна. У ёй 10 раздзелаў, кожны з якіх раскрывае розныя грані традыцыйнай культуры Падняпроўя, дае ўяўленне аб яе асаблівасцях: абрадах, песнях, інструментальнай музыцы, празаічным і танцавальным фальклоры, гульнях, народным касцюме, народным тэкстылі. Матэрыялы тома - крыніца творчых ідэй для прафесійных дзеячаў культуры і мастацтва розных накірункаў. Дарэчы, выданне, як і ўся серыя, разлічана на навукоўцаў-гуманітарыяў, выкладчыкаў і студэнтаў ВНУ, настаўнікаў, работнікаў культуры, кіраўнікоў прафесійных і аматарскіх мастацкіх калектываў, тых, хто цікавіцца беларускімі традыцыямі. Яно багата ілюстравана фатаграфічнымі, нотнымі матэрыяламі, мастацкімі малюнкамі.

**Алена ШЫЦІК.**

Захапленні

# Таямніцы беларускай Лады

**_Што трэба, каб у чалавеку прачнулася цяга да якога-небудзь рамяства? Каб гэтая цяга вылівалася не проста ў баўленне часу, а ў самую што ні на ёсць філасофію жыцця? Яно ж, жыццё, - такое разнастайнае, шматаблічнае, непрадказальнае. І трэба валодаць асаблівым дарам, каб умець перадаць яго не на паперы, не моўнымі сродкамі, а на тканіне з дапамогай сімвалаў і знакаў, якія дайшлі да нашага часу ажно з даўніны._**

Мне пашанцавала сустрэць такога чалавека. Маладая вышывальшчыца сядзела на канапе і з такім замілаваннем вышывала чырвоны ўзор, што немагчыма было адвесці ад яе вачэй.

Як высветлілася, Алена Кірэева займаецца ручной вышыўкай прафесійна, а ў Таварыстве беларускай мовы, дзе адбылося наша з ёй знаёмства, працуе на кніжнай выставе і вядзе гурток вышывання.

**- Алена,** - дапытваюся, **- адкуль у Вас столькі беларускасці?**

- Мама мая родам з Ніжняга Ноўгарада, тата - беларус, але па-беларуску не размаўляў. Ды, відаць, генная памяць - вельмі сур'ёзная рэч, калі ўва мне праз пакаленне прачнулася беларуская мова. Было гэта так. Ішла па вуліцы, убачыла купку людзей, наблізілася да іх - і так мне запала ў душу іх гаворка, так кранула, што вырашыла абавязкова навучыцца размаўляць гэтак жа.

**- А на вышыванкі хто Вас натхніў?**

- Здаецца, што гэта таксама было ўва мне заўсёды. Я толькі выбрала кірунак. Мне заўсёды хацелася нешта рабіць рукамі: з бісерам, саломкай навучылася працаваць яшчэ ў мастацкай школе. А калі звярнулася да беларушчыны, то вырашыла, што і вырабы мае таксама павінны быць адпаведнымі. А тут акурат у якасці эксперыменту набіралі групу для заняткаў у гурток вышывальшчыц пры Доме ветэранаў, куды я, канешне, запісалася разам з яшчэ трыма жанчынамі. Ды двое тыя курсы хутка кінулі з-за таго, што наша выкладчыца размаўляла па-беларуску. Так цяжка ім было ўспрымаць яе ўрокі. А я, наадварот, толькі радавалася такому шчасліваму выпадку.

**- А як да такога Вашага выбару паставіліся сябры, знаёмыя?**

- Яны былі больш здзіўленыя, калі пасля заканчэння мастацкай школы я паступіла вучыцца на хімічны факультэт. У вочы казалі, што гэта самагубства для мяне. Толькі хімія ў мяне, відаць, таксама ў генах - мая бабуля працавала выкладчыцай гэтага прадмета. Потым я атрымала яшчэ адну вышэйшую адукацыю - радыеэкалагічную. Так што ў рэшце рэшт, калі я вярнулася да свайго старога захаплення, то ўсе толькі ўздыхнулі.

**- Раскажыце трохі пра гэты Ваш занятак.**

- Ну вось, напрыклад, днямі прыйшла мая сястра, расказала, што закахалася ў хлопца. Папрасіла вышыць што-небудзь, каб утрымаць яго каля сябе. Я вышыла ёй кальe на шыю з адпаведным узорам. Няхай носіць, радуецца і верыць.

Справа ў тым, што нашы продкі-беларусачкі былі вельмі ўражлівымі, вельмі чуллівымі людзьмі, мелі паэтычныя душы і ўмелі ўвасобіць гэтую паэтычнасць у пэўныя фігуры-сімвалы, адлюстраваць іх потым у сваіх узорах на льняным ці канапляным палатне.

**- Магчыма, у Вас захаваліся якія фамільныя вышыванкі?**

- На жаль, у мяне няма вышыванак ад бабулі. Але знаходзіліся людзі, якія дарылі мне вышываныя ручнікі - ды такія прыгожыя! Казалі, што іх можна чытаць, што кожны такі ручнік - гэта аповесць пра жыццё таго, хто яго вышываў. Кожная выява на ручніку нешта азначае. Вось, напрыклад - сонца, зямля, каханне...

Праўда, напачатку гэта ўсё не выглядала так стылізавана. Людзі вышывалі хто што бачыў: сонейка, расліны, птушак. Таму на старадаўнім ручніку можна любавацца ўзорам, які нагадвае дрэва. Гэта "радавод", які перадаваўся з пакалення ў пакаленне. На ніжніх галінах дрэва яшчэ прабабуля вышыла свой лёс, вышэй - яе дачка, потым - унучка, і гэтак далей. Безумоўна, не на старым ручніку вышываліся новыя ўзоры. Проста ўнучка капіравала ўзор з бабулінага ручніка і дадавала да яго свой.

Лічылася, што ручнік можа лячыць ад хвароб, адварочваць зло і прыцягваць дабро. Вышывальшчыца ўплятала ў ручнік сваю малітву, каб у сям'і ўсё было добра, каб нарадзіліся дзеткі і г.д. Такім чынам яна заплятала ў тканіну свае думкі, а гэта значыць - пэўную энергію.

Вось, напрыклад, узор "зорка". Гэта можа быць выява дзіцяці і выява сям'і. Яна азначае, што жанчына просіць у свайго Бога, каб сям'я была моцнай. Каб мір у ёй панаваў, бо побач вышыты выявы хлеба і сонца.

Калі жанчына вышывала маці Аранту ці маці-радзіцельніцу, дык гэткім чынам яна малілася, каб нарадзілася здаровае дзіця. Бо Аранта лічыцца, паводле язычніцкіх вераванняў і хрысціянскай сімволікі, заступніцай жанчын.

**- А як у сучасным жыцці могуць выкарыстоўвацца гэтыя ўзоры?**

- І цяпер вельмі модна сярод моладзі насіць вышываныя бранзалецікі, так званыя фенечкі. Асабліва з вялікім задавальненнем іх носяць падлеткі. Павязваючы іх на руку, хлопчыкі і дзяўчынкі абараняюць сябе ад дрэннай энергіі. Некалі лічылася, што зло можа ўвайсці ў чалавека праз адтуліны ў яго адзенні. Таму абавязкова аздабляліся вышыўкай ніз кашулі, бераг рукавоў і край гарлавіны.

Часта просяць мяне таксама вышыць ручнікі для вяселля. Дарэчы, тут я хачу звярнуць увагу на адну акалічнасць. У ручніку белае поле лічыцца зонай смерці, а чырвонае зонай жыцця. Таму трэба, сустракаючы маладых, хлеб-соль класці на чырвоныя берагі ручніка, а не на пасяродку на белае.

На сучасных вяселлях таксама памылкова абвязваюць сватоў толькі белым - зонай смерці атрымліваецца. А некалі ручнік для свата выраблялі наогул без белага, увесь вышывалі чырвоным - адным жыццём, адным святам!



Ці яшчэ такая з'ява, як апаясванне нованароджаных для хрышчэння. Цяпер неяк павялося хлопчыкаў абвязваць блакітнай стужачкай, а дзяўчынак - ружовай. Зноў жа няправільна. На Беларусі здавён лічылася, што абараняе менавіта чырвоны колер. Дзяцей спавівалі ў белыя тканіны, а паверх, незалежна ад таго хлопчык гэта ці дзяўчынка, абавязкова павязвалі чырвоную стужку ці хоць бы чырвоную нітачку. Таму што вось яно - новае жыццё, якое толькі-толькі з'явілася і пакуль нічым не можа сябе абараніць.

Здагадваюся, што ёсць яшчэ нейкія правілы, якіх мы не ведаем, пра якія забыліся. Нягледзячы на тое, што адна мая бабуля з Беларусі, яна мне гэтых ведаў не перадала. Добра, што бабуля майго мужа шмат што ведае пра вышыванкі. Ды і тут, на кніжнай выставе, калі сяджу і вышываю, то, здараецца, хто-небудзь з наведвальнікаў нешта новае раскажа.

**- Дык, можа, ужо час Вам якую дысертацыю па гэтай тэме пісаць?**

- Не. Я лічу сябе ў гэтай справе дылетантам. Ёсць людзі, якія займаюцца ёй усё жыццё, заканчвалі факультэт народнага мастацтва ў акадэміі. А я абклалася кніжкамі, размаўляю з людзьмі...

**- Ці ёсць узоры, прызначаныя менавіта для моладзі?**

- Ну, канешне, гэта Лада - багіня кахання, Купалінка або Вяснянка, якія сімвалізуюць час росквіту. Маладой жанчыне, якая хутка павінна стаць маці, можна параіць вышыўку Берагіні.

Калі хлопец і дзяўчына перажываюць узаемнае каханне, дык вышываюцца птушкі, павернутыя адна да другой. Калі неўзаемнае, то адна з іх павернута ў іншы бок. Калі ж каханне ў росквіце - у птушак паднятыя крылцы. А дзве птушкі, павернутыя ў розныя бакі, азначаюць, што каханне скончылася.

**- Чаму Вы вышываеце толькі чырвоным?**

- Спрадвечнымі беларускімі колерамі лічацца белы, чырвоны і крышачку чорнага. У некаторых раёнах лічылася прыгожай вышыўка чорным па белым. А ёсць такая вёска Няблюбка, дзе найбольш шыкоўным лічыцца ўзор белым па белым.

Сёння можна ўбачыць беларускія касцюмы, вышытыя зялёным, чырвоным, жоўтым. Але ўсё ж такі сапраўдныя беларускія ўзоры больш стылізаваныя, і таму глядзяцца вельмі па-сучаснаму.

**- А як з'явіліся розныя ружы, вазачкі і інш.? І якая вышыўка - крыжыкам, процягам ці гладдзю - больш беларуская?**

- Беларуская вышыўка - процягам, калі нітка ідзе з двух бакоў тканіны. Крыжык і рознакаляровая гладзь - не зусім нашыя. Акрамя таго, вышыўка крыжыкам - аднабаковая. Каб яна атрымалася на двух баках, трэба быць вельмі таленавітай вышывальшчыцай. Іншая справа - процяг. Завіхаецца гаспадынька ў вышытым процягам фартушку, а тут раптоўна госці. Яна імгненна пераапранае яго на іншы, чысты бок. Зручна і эканомна. Акрамя таго вышыўка процягам стварае на тыльным баку крыху іншы ўзор - атрымліваецца два фартушкі ў адным.

А што датычыць першай часткі вашага пытання... У канцы васемнаццатага стагоддзя з'явілася фірма "Брокер", якая выпускала ў продаж мыла, загорнутае ў паперу, на якой, для заваблівання пакупнікоў, былі намаляваны вось гэтыя крыжыкавыя ўзоры з выявамі прыгожых, нянаскіх дрэў і птушак. Такім чынам, не трэба было рабіць "рэвалюцыю", каб знішчыць беларускі ўзор. Людзям жа ўласціва імкнуцца да нечага новага, нават калі яно і не лепшае.

**Тамара МАЗУР.**

НАШ ИНДЕКС - 63851
Знамя юности
ЧИТАЮТ ВСЕ!
ТЕПЕРЬ - ЦВЕТНАЯ "ТОЛСТУШКА" КАЖДУЮ СУББОТУ!

Галоўны рэдактар Аляксандр Гайдук

ЗАСНАВАЛЬНІК — МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Рэгістрацыйны нумар 197.

НАШ АДРАС:
220034, МІНСК, ВУЛІЦА ЗАХАРАВА, 42.
Тэлефоны прыёмнай рэдакцыі: 36-91-42; намеснікаў галоўнага рэдактара — 36-90-63, 36-40-63; бухгалтэрыі — 36-53-22; рэкламы — 36-53-22; аддзелаў: школ — 36-43-62; праблем выхавання, навукі — 36-43-71, 36-90-63; інфармацыі — 36-43-71; ВНУ і тэхнікумаў — 36-44-25; прафтэхадукацыі, пісьмаў і сацыяльных праблем — 36-44-25; культуры — 36-41-55.
ФАКС: 36-53-22, bng@e-mail.ru

Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі (нумар пашпарта, дату выдачы, кім выдадзены пашпарт), асноўнае месца работы, зваротны адрас, нясуць адказнасць за дакладнасць фактаў і іншай інфармацыі.
Пісьмы, рукапісы, фотаздымкі і малюнкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Аб'явы могуць друкавацца не толькі на дзяржаўнай, але і на замежных мовах.

Меркаванне аўтараў публікацый не абавязкова адлюстроўвае пункт гледжання рэдакцыі.

Адказны дзяжурны Святлана КІРСАНАВА.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку», 220013, Мінск, праспект Ф.Скарыны, 79.
Аб'ём — два друкаваныя аркушы. Спосаб друку — афсетны. Фармат А2. Індэкс 63867.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12. Заказ № 1688
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Падпісана да друку 13.3.2002 г. у 18.10
Тыраж 30.000 экзэмпляраў.